

жутары: Справаздачна-выбарчыя канферэнцыі БГКТ



ПЕРАДЗ'ЕЗДАЎСКАЯ ДЫСКУСІЯ



ПА СЛЯДАХ ПАЎСТАНЦКАЙ ЛЕГЕНДЫ


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 7 (520) ГОД XI 13 ЛЮТАГА 1966 г. ЦАНА 60 гр.


НОВЫЯ ВЕРШЫ

## МЯЧЫК

Як сонца, мячык залаты  
Шпурляў я ў вышыню,  
А ён вяртаўся, шар пусты,  
Каб не спыняць гульню.  
Ну што ж,  
Ізноў яго лаўлю:  
«Ляці ў блакіт! Да хмар!»  
Але вяртаўся на зямлю  
Непаслухмяны шар.  
«Ляці! У небе прыгажэй!»  
А ён — назад.  
Чаму?  
Відаць, зямля яму мілей  
І я мілей яму.

МІКОЛА АЛТУХОЎ

## БГКТ у 1965 г.

У канцы 1965 года БГКТ мела 5346 членаў. У параўнанні з папярэднім годам наступіў узрост ліку членаў на 700 чалавек. Не павялічылася аднак колькасць гурткоў БГКТ. Падзел паміж паасобнымі аддзеламі быў наступны: г. Беласток меў 1 гурток і 1000 членаў, бельскі — 45 гурткоў і 1495 членаў, дуброўскі — 4 гурткі і 132 члены, гайнаўскі — 48 гурткоў і 1472 члены, міхалоўскі — 13 гурткоў і 253 члены, мілейчыцкі — 17 гурткоў і 462 члены, сакольскі — 23 гурткі і 350 членаў, г. Варшава — 1 гурток і 182 члены.

Найбольшы ўзрост арганізацыі наступіў у аддзелах Беласток, Мілейчыцы і Бельск.

Аплачванне складчын далей было незадавальняючае, хоць значна ўзрасло ў параўнанні з папярэднімі гадамі і дасягнула каля 30%. Найбольшыя дасягненні адзначаюць праўленні аддзелаў у Мілейчыцах (50%), Варшаве (46%) і Міхалове (40%).

Абслуга гурткоў БГКТ была ў паасобных аддзелах рознай, найбольш сістэматычнай у мілейчыцкім, дзе ўсе гурткі на працягу года адведваліся па 3 і больш разоў, і найслабейшая — у гайнаўскім, дзе некаторыя гурткі не былі абслужаны аж да пачатку выбарчай акцыі. Справаздачна-выбарчая кампанія прынесла змены на лепшае. Да працы ў гуртках уключыўся актыў аддзелаў. Найбольшую актыўнасць выказаў тав. Крэйза Сяргей, які выязджаў 21 раз, і тав. Бура Віктар — 17 разоў, а таксама таварышы Дзун В., Семянюк Р. і іншыя.

Праўленні аддзелаў у 1965 годзе зрабілі разам 56 пасяджэнняў і 13 канферэнцый.

Галоўнае праўленне БГКТ мела 2 пленарныя пасяджэнні, з якіх першае — 24. III. — было прысвечана выбарам у Сейм і рады нарадовыя ПНР, а другое — 24. X. — запачаткаванню справаздачна-выбарчай кампаніі БГКТ.

Прэзідыум ГП меў 10 пасяджэнняў, на якіх аналізаваліся планы і справаздачы з працы, бюджэт, культурна-асветная дзейнасць таварыства, кадравыя справы і г. д.

ГП БГКТ утрымоўвала шырокія кантакты з іншымі арганізацыямі ў галіне культурна-асветнай працы. Так, напрыклад, з ГП і ВП ТППР у абмене фільмаў, публікацый, удзелу ў нарадах, карыстанні памяшканнямі, з Домам савецкай культуры ў Варшаве ў абмене фільмаў, кніжак, арганізаванні сустрэч з Аддзелам культуры ВРН, ВДК, ПДК — у карыстанні памяшканнямі, удзеле ў нарадах, камісіях, кансультацыях, правядзенні аглядаў аматарскіх гурткоў, з «Рухам» у выкарыстоўванні клубакавярняў, падрыхтоўцы фотавыставак, кальпартажа прэсы, з Ваяводскай бібліятэкай у даборы кніжак, арга-

(Працяг на стар. 5)



У Чыжах. Фота: Ул. Паўлючук

Перадз'ездаўская ТРЫБУНА

## ЗВЯРНУЦЬ УВАГУ НА НАВУКОВЫ ГУРТОК І МУЗЕЙ

Перадз'ездаўская дыскусія аказалася мэтазгоднай і вельмі актуальнай. Пацвярджаецца гэта талковай і змястоўнай крытыкай дагэтуляшняй дзейнасці Т-ва, якая разгарнулася на старонках «Нівы». Кожны з дагэтуль выступаўшых дыскутантаў паказвае недахопы ў дзейнасці Т-ва, прычыны іх і прапануе спосабы паляпшэння.

З вялікім задавальненнем я чытаў выступленне С. Яновіча, А. Карпюка, М. Лобача, В. Шведа і інш. таварышаў, якія так ясна прадставілі недахопы ў паасобных галінах дзейнасці Т-ва. Я асабіста далучаюся да іхняй крытыкі і прапаноў, якія ўнеслі б большую спраўнасць у дзейнасці нашай арганізацыі. Але нельга згадзіцца са сцвярджэннем В. Дзуна, які, на мой погляд, не заслужана ўсе гурткі ўзносіць на высокі п'едэстал. Прыпісвае ім ролю культурнага трансфарматара ў беларускім асяроддзі, якой яны ніколі не выконвалі і не выконваюць. На мой погляд, правільную ацэнку даў М. Лобач. Яны папросту былі і будуць (за выключэннем некато-

(Працяг на стар. 4)

■ АНКЕТА ■ АНКЕТА ■ АНКЕТА ■ АНКЕТА ■

## ДАРАГІ ЧЫТАЧ!

**4 сакавіка г. г. спаўняецца 10 год з дня, калі выйшаў першы нумар «Нівы». За ўвесь гэты час мы стараліся быць найлепшым сябрам, як маглі, стараліся выконваць Твае пажаданні. Аднак разумеем, што можам яшчэ больш наблізіць сваю працу да Тваіх патрэб. Таму кіруем да Цябе, Дарагі Чытач, пытанні, на якія просім даць нам адказ да 18 лютага г. г. Хочам аб выніках анкеты паведаміць у юбілейным нумары.**

**1. Што чытаеш найахвотней (падкрэсліць):**

**а) артыкулы — гаспадарчыя, грамадскія, бытавыя культурныя**

**б) артыкулы на тэмы гісторыі, літаратуры, этнаграфіі, аб свеце, навукі і тэхнікі**

**в) сталыя рубрыкі: з жыцця БГКТ, з БССР Сельская гаспадарка без таямніц, Сучасная жанчына, Сардэчныя тайны, Дзядзька Лявон, Песні па заяўках**

**г) аповесці, успаміны, вершы, апавяданні**

**д) гумар і сатыру**

**2. Якія з гэтых аддзелаў прапануеш пашырыць?**



Новыя будынкі Беластоцкай Медыцынскай акадэміі ноччу. Фота: А. К.

# СПРАВАЗДАЧНА-ВЫБАРЧЫЯ КАНФЕРЭНЦЫІ БГКТ

**Набліжаецца V з'езд БГКТ, 26 і 27 ужо недалёка. Таму ў апошнім часе інтэнсіўна праходзіць падрыхтоўка да юбілейнага з'езда БГКТ. У гуртках адбыліся або адбываюцца справаздачна-выбарчыя сходы, а ў аддзелах справаздачна-выбарчыя канферэнцыі, на якіх падсумоўваецца дагэтуляшняя дзейнасць і накрэсліваюцца далейшыя яе напрамкі.**

## МІЛЕЙЧЫЦЫ

16 студзеня 1966 г. у Мілейчыцах адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя БГКТ, на якой удзельнічала больш 50 дэлегатаў і запрошаных гасцей.

Тэмай да дыскусіі быў справаздачны даклад праўлення аддзела. У творчай дыскусіі над гэтым дакладам шэраг дыскутантаў звяртала ўвагу на пошукі новых форм працы БГКТ. Член праўлення аддзела Анатоль Касцюк гаварыў аб тым, што дагэтуль у працы партыйных і грамадскіх дзеячаў не было спалучэння ў галіне грамадскай і культурнай дзейнасці, якой перад усім займаецца Беларускае таварыства ў беларускім асяроддзі. Тав. Іван Плешук — сакратар КП ПАРП у Сямяцічах звярнуў увагу на пашырэнне ведаў з гісторыі супольнай барацьбы беларусаў і палякаў у станаўленні народнай улады ў Польшчы. Трэба шырэй развіваць прапагандную працу не толькі ў тых вёсках, дзе існуюць гурткі БГКТ, але перад усім там, дзе дагэтуль іх няма, напрыклад, на тэрыторыі грамад Крупіцы, Чорна-Сярэдня, Драгічын, Мельнік, Баратынец-Рускі. У нашай працы ў гэтых асяроддзях неабходна дэмаскаваць некаторых «гісторыкаў», шкодныя публікацыі якіх паявіліся нават у друку. Напрыклад, у «Хлопскай дрозе» апублікаваны цыкл апавяданняў нейкага Далецкага, які стараецца адвярнуць гістарычныя падзеі. Паказвае ён беларусаў з аколіц Нурца, Мілейчыц, Мельніка як людзей, якія «перашкаджалі» ў станаўленні народнай улады. Гэта ж яўная хлусня!

Многія дыскутанты ў сваіх выступленнях падкрэслівалі патрэбу далейшага арганізацыйнага ўмацавання гурткоў БГКТ і арганізавання новых гурткоў.

Канферэнцыя выбрала новае 11-асабовае праўленне аддзела БГКТ. Старшынёю праўлення выбраны Сяргей Крэйза, намеснікам старшыні — Анатоль Мартыновіч, сакратаром — Святлана Пешка. 3-асабовую рэвізійную камісію ўзначаліў Васіль Леаньчук. На з'езд БГКТ выбрана 18 дэлегатаў.

**Сяргей Крэйза**
Мілейчыцы

## САКОЛКА

30 студзеня ў Саколцы на справаздачна-выбарчай канферэнцыі Беларускага грамадска-культурнага таварыства ўзяло ўдзел больш 40 дэлегатаў. Справаздачны даклад чытаў намеснік старшыні аддзела Віталі Чыжэўскі. Даклад паказваў вялікія дасягненні Беларускага таварыства з асаблівым падкрэсленнем дзейнасці яго на Сакольшчыне.

Пасля даклада пачалася цікавая і творчая дыскусія. Кіраўнік школы з Астраўка Яўгень Чабан між іншым гаварыў аб драмгуртку, які паспяхова выступае з п'есай Янкі Купалы «Прымакі». Моладзь у Астраўку цікавіцца культурна-асветнай працай, арганізуе выстаўкі, вечарыны, супрацоўнічае з настаўнікамі. Янка Мікуць з Кузніцы расказваў аб працы членаў свайго гуртка, якая ў асноўным зводзіцца да дапамогі іншым гурткам і да прапаганды ў паасобных вёсках дасягненняў БГКТ. У Кузніцы ў школе не навучаецца беларуская мова. Янка Мікуць сваіх дзяцей сам вучыць і свайго роду з'яўляецца выкладчыкам роднай мовы.

На канферэнцыі асаблівую актыўнасць праяўляў гурток БГКТ з Крынак. Дэлегаты яго (было іх трох) даказвалі патрэбу і магчымасць арганізавання ў Крынках харавога калектыву.

— Старэйшыя і моладзь з Крынак, — гаварыў Анатоль Анісімовіч, — абавязалі нас, каб мы на канферэнцыі папрасілі ўлады дапамагчы ў аплочванні дырыжора, а ўсе іншыя справы, звязаныя з патрэбамі харавога калектыву, мы самі ўладзім.

Канферэнцыя выбрала 12-асабовае павятовае праўленне БГКТ, 3-асабовую рэвізійную камісію і 13 дэлегатаў на V з'езд БГКТ. Пасля заканчэння канферэнцыі адбылося першае пасяджэнне новавыбранага праўлення, якое выбрала прэзідыум аддзела. У склад яго ўвайшлі Аляксандр Рафаловіч — старшыня, Мікола Лукашук — намеснік старшыні, Віталі Чыжэўскі — сакратар, Оля Паўлючук і Аляксандр Казлоўскі — члены.

## МІХАЛОВА

30 студзеня г. г. у памяшканні ПДК адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя праўлення аддзела БГКТ у Міхалове. На канферэнцыю прыбылі 24 дэлегаты. Адкрыў яе дагэтуляшні старшыня аддзела Янка Азябла, вёў член аддзела Янка Полацкі. Са змястоўным дакладам выступіў Яўген Літвін. Вось некалькі кароткіх вытрымак з даклада: «...У першую чаргу аддзелу прыйшлося пакласці шмат намаганняў на выясненне палітыкі партыі і ўрада адносна нацыянальных меншасцей, на арганізацыю і разбудову БГКТ у павеце. Многа ўвагі прысвяціў аддзел увядзенню беларускай мовы ў школах. Аддзел з'явіўся ініцыятарам мастацкай самадзейнасці з беларускім рэпертуарам і далей падтрымлівае яе шляхам арганізавання гадавых аглядаў, конкурсаў. Былі арганізаваны таксама выстаўкі народнай беларускай вышыўкі, фотавыстаўкі з жыцця БССР, распаўсюджваліся выданні ГП БГКТ.

Праўленне аддзела заўсёды памятала аб важных гадавінах ці важнейшых падзеях у краіне, як выбарчыя кампаніі, 45-годдзя БССР, 40-годдзя Грамады.

На сённяшні дзень БГКТ у Беластоцкім павеце налічвае 253 членаў ў 15 гуртках... Да найлепш працуючых гурткоў трэба аднесці Белявічы, Патоку, Лупляянку, Пясчанікі. Гэтыя гурткі сістэматычна праводзяць сходы, дбаюць аб рэгулярным аплачванні членскіх складчын і выконваюць шэраг прац у культурна-асветнай галіне. Пры кожным гуртку працуе сістэматычна аматарскі калектыў...

Праўленне аддзела ў сваёй штодзённай працы звяртала многа ўвагі на прапагаванне і падтрымку працы грамадскім чынам. Асабліва гэта выявілася ў годзе XX-годдзя ПНР, калі ў Круглым Ляску, Рыбаках, Белявічах, Пяньках насельніцтва, усе арганізацыі, у тым ліку і БГКТ прыступілі да рамонту і пабудовы дарог. Гурток з Белявіч браў удзел у пабудове святліцы, з Круглага Ляска — у злеўні малака...

У гэтай кадэнцыі выдзяляліся ў працы наступныя таварышы: Янка Азябла, Язэп Чэшаль, Вера Назарка, Ніна Полацкая, Янка Полацкі, Міхась Крупіцкі, Антон Саковіч, Мікалай Новік і іншыя... Шэраг нашых актывістаў было выбрана ў рады нарадовыя, як Янка Азябла, Янка Полацкі, Мікалай Міруць, Мікалай Хлябіч, Антон Саковіч».

Пасля даклада разгарнулася вельмі ажыўленая і вострая дыскусія, у якой узяло ўдзел 17 асоб.

Таварышы Сцяпан Аксюцік, Янка Полацкі, Мікалай Хлябіч і іншыя з крыўдаю заўважвалі, што апрача прадстаўнікоў ГП БГКТ нікога няма з павятовых улад. «На працягу 10 год не бачыў я на канферэнцыях БГКТ сакратароў Павятовага камітэта партыі, — гаварыў С. Аксюцік. — Калі трэба зацвердзіць у гандлёвым доме ГС у Міхалове штат прыбіральшчыцы, прадстаўнікі павятовых улад прыедуць, а калі выбіраецца павятовае праўленне грамадска-культурнай арганізацыі, іх няма».

У гэтай справе прысутныя проста забавязалі сакратара ГП Ул. Юзвюка перадаць іх прэтэнзіі адпаведным уладам і дабіцца прыезду працаўніка Павятовага камітэта партыі на першае пасяджэнне аддзела БГКТ.

Надзвычай цікавымі, але як жа вострымі былі выступленні Веры Назарка, якая гаварыла: «Я руская, пажылая, але колькі магу, столькі бяру ўдзел у працах мясцовага праўлення БГКТ. Ведаю з гісторыі, што беларускае насельніцтва дзесяткамі год змагалася за свае правы. Зараз атрымала іх. Але ў працы таварыства не актыўнае — усё тыя ж «старыкі» ды вясковая моладзь. А новая інтэлігенцыя дасягнула дабрабыту і забылася аб сваіх людзях».

Мікалай Хлябіч з вёскі Рыбакі, забіраючы голас падкрэсліў, што яго асяроддзе вельмі актыўнае. Ажываюць усе арганізацыі, развіваецца праца БГКТ, таму што існуе да гэтага спрыяльная атмасфера. Але нельга гэтага сказаць аб самым Міхалове, дзе адносіны паміж людзьмі не найлепшыя і ніхто быццам гэтага не заўважае. Мала пакладаюць намаганняў для выхавання насельніцтва настаўнікі мясцовых сярэдніх школ, працаўнікі ГС-а, рады нарадовай, ПДК.

Пятро Госцік гаварыў, што ў вёсцы Белявічы не было нічога. Але пачалі будаваць святліцу, прыехалі члены аддзела БГКТ, падрыхтавалі адну, другую п'есу. Зараз там ужо ўздзейнічаюць на ўсю аколіцу. Маюць вялікія планы, многа ахвоты да працы, але трэба ім крыху дапамагчы.

Іншыя дыскутанты падкрэслівалі слабую актыўнасць членаў аддзела і яго старшыні, аднакірунковасць працы інструктара, дамагаліся большай колькасці кінафільмаў, канцэртаў эстрады, аўтарскіх сустрэч і г. д.

Дыскусію падсумаваў сакратар ГП Ул. Юзвюк.

Прысутныя прынялі прапанову аб павелічэнні ліку гурткоў і членаў БГКТ на працягу новай кадэнцыі ў 3 разы, вырашылі ахапіць дзейнасцю ўвесь павет, навязаць цяснейшае супрацоўніцтва з уладамі і арганізацыямі, арганізаваць у Міхалове або Гарадку паказовы калектыў або драмгурток, абслугоўваць кожны гурток мінімум адзін раз на квартал, развіваць асвету і чытальніцтва кніжак на беларускай мове.

На заканчэнне выбрана новае праўленне аддзела ў складзе 12 асоб на чале з Янкам Полацкім. (ую)

**3. Якія з публікаваных матэрыялаў лічыш найбольш прыдатнымі Табе?** ........................................

........................................

........................................

........................................

........................................

**4. Чаго табе ў «Ніве» не хапае — якіх праблем і з'яў, на Тваю думку, не бачым або звяртаем на іх замалую ўвагу?** ........................................

........................................

........................................

........................................

........................................

**Усе ўдзельнікі анкеты атрымаюць кніжныя ўзнагароды.**

**Імя і прозвішча:** ........................................

**Колькі Табе год?** ........................................

**Адрас:** ........................................

........................................

**Адказы просім слаць на адрас „Niwa", Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**

## „Завяшчанне Гітлера" (4)

У «завяшчанні» Гітлер не раз сцвярджаў, што ў паражэнні вінавата не фашысцкая Германія, а яе дрэнныя саюзнікі. Таму Гітлер абрушваўся ў «завяшчанні» на Італію. Абвінавачваючы Італію ў здрадзе, ён гаварыў, што нібыта заўсёды быў супраць яе ўдзелу ў вайне. Пасля пачатку ўжо другой сусветнай вайны, 27 верасня 1940 года, у Берліне, як вядома, быў падпісан пакт паміж Германіяй, Італіяй і Японіяй аб падзеле сфер уплыву — «пакт трох агрэсараў», а 28 кастрычніка Італія ўварвалася ў Грэцыю. Аднак з прагулкі па Грэцыі ў італьянскіх імперыялістаў нічога не выйшла, і толькі акупацыя Грэцыі вермахтам выратавала італьянскую армію ад канчатковага паражэння. Тут Гітлер бачыў адну з прычын пройгрышу ў вайне — магчыма, нават адну з самых важных. «Ракавы» італьянскі паход у Грэцыю прымусіў Германію ўмяшацца, што, гаварыў Гітлер, затрымала на 5 тыдняў яе выступленне супраць Савецката Саюза (якое планавалася на 15 мая 1941 года). А гэта, у сваю чаргу, сцвярджаў ён 17 лютага 1945 года, прывяло да «катастрафічнай затрымкі нашага нападзення на Расію», што вырашыла лёс германа-савецкай вайны. (Аб старанна распрацаваных германскіх планах заваявання Балканскага паўвострава Гітлер у «завяшчанні», зразумела, змоўчваў). Такім чынам, толькі ў выніку «вернасці» свайму




італьянскаму саюзніку Германія церпіць цяпер паражэнне, рабіў вывад Гітлер.

«Калі я бяруся меркаваць аб мінулым аб'ектыўна і без эмоцый», — гаварыў Гітлер 17 лютага 1945 года, хоць ні тое, ні другое ён зрабіць быў не ў стане, — «тады мне трэба прызнаць, што маю непахісную дружбу з Італіяй і дучэ трэба лічыць памылкай. Зусім відавочна, што саюз з Італіяй прынёс больш нашым ворагам, чым нам. Уступленне Італіі ў вайну дало выгады, якія больш чым скромныя ў параўнанні са шматлікімі цяжкасцямі, што выкліканы гэтым. Калі, нягледзячы на ўсе намаганні, мы не выйграем гэту вайну, тады можна сказаць, што Італія садзейнічала нашаму паражэнню.

Найвялікшая паслуга, якую магла б аказаць нам Італія, — застацца ў баку ад цяперашняга канфлікту. Каб дабіцца гэтага, ніякія ахвяры, ніякія дары з нашага боку не былі б празмерныя. Калі б Італія цвёрда прытрымлівалася свайго нейтралітэту, мы асыпалі б яе дабром. У перамозе мы раздзялілі б з ёй увесь плён і славу. Мы ад усяго сэрца ўдзельнічалі б у стварэнні гістарычнага міфа аб перавазе італьянскага народа, законнага сына старажытных рымлян. Трэба было б прыняць усё, каб не мець іх як таварышаў па зброі на полі бітвы!.. Калі б вайна заставалася вайной Германіі, а не дзяржаў восі, мы змаглі б напасці на Расію каля 15 мая 1941 года. Удвая моцныя ўсведамленнем таго факта, што нашы войскі не ведалі нічога іншага, акрамя рашучых і бясспрэчных перамог, мы змаглі б завяршыць кампанію да надыходу зімы. У гэтым выпадку ўсе падзеі развіваліся б зусім інакш!»

 

# НА ШЫРОКІЯ ШЛЯХІ

**6 год Беластоцкай «Грамады». Акцыя «Сядайце, едзем». «Ніва» уключылася ў акцыю «Грамады» і газеты «Наша весь».**

Спулдзельня турыстычна-адпачынковая «Грамада» служыць вёсцы. Такое яе заданне, і праз 8 год (Беластоцкі аддзел 6 год) сваёй дзейнасці здабыла славу.

Беластоцкі аддзел належыць да лепшых у краіне і безупынна ініцыюе ён цікавыя мерапрыемствы.. А ўсё для таго, каб жыхару вёскі паказаць свет і людзей, каб вёску культурна ўзняць. Людзі пішуць, і ў тых лістах чытаем, што экскурсія ў Варшаву, Быдгашч, ці шляхам Леніна (ужо традыцыйны шлях беластоцкіх экскурсій) пакінуў сярод удзельнікаў незабыўнае ўражанне. Можна сказаць, што дзякуючы якраз «Грамадзе» вясковыя людзі могуць паехаць, могуць пабываць у тэатрах, у вялікіх прадпрыемствах, пабачыць найбольшыя забыткі краіны.

На добра арганізаванай прэс-канферэнцыі дырэктар Беластоцкай «Грамады» шырока паінфармаваў аб дасягненнях і планах сваей установы. Да першых належаць: перавоз 15-ці тысяч асоб у 1965 годзе ў Беластоцкі тэатр; арганізаванне ў Беластоку оперных выступленняў, таксама выступленняў калектываў «Мазоўша», «Слёнска», на якія давезена ахвотных з вёсак; акцыя «Сядайце, едзем», якую «Грамада» распачала супольна з рэдакцыяй «Наша весь». У адным IV квартале 1965 года ў рамах акцыі было перавезена 23 тысячы асоб, былі спецыялістычныя экскурсіі гаспадароў у развітыя раёны краіны, напрыклад, у Познаньскае.

**У студзені 1966 года да акцыі «Сядайце, едзем» прыступіла наша рэдакцыя і ў сувязі з гэтым будзем адабраць кожную ініцыятыву нашых чытачоў і сімпатыкаў, якія захочуць скарыстаць з выездаў у рамах акцыі. Будзем таксама інфармаваць аб пачынаннях акцыі «Сядайце, едзем». Можна ў нас атрымаць інфармацыю і злажыць заказ.**

Што ў 1966?

Уся дзейнасць «Грамады» пад знакам Тысячагоддзя Дзяржавы. Выезды ў цікавейшыя гарады і мясцовасці краіны, між іншым, пад Грунвальд — слаўнае месца польскай і славянскай перамогі над крыжацкім законам. Выезды ў новы Тэатр Вялікі ў Варшаву, дзе Беластоцкі аддзел атрымаў па 500 білетаў на кожную нядзелю лютага і сакавіка. У першай экскурсіі ў гэты тэатр ездзілі працаўнікі ПГР — Ігнаткі і група 30-ці вясковых жанчын, якія карысталі з формы грамадаўскага адпачынку ў горадзе Беластоку (жылі ў гасцініцы «Крісталь», пазнавалі горад, хадзілі ў тэатр). Гэта новая форма і вельмі да яе заахвочваем, асабліва аператыўных жанчын з гурткоў вясковых гаспадынь і з ЗМВ. Даволі сядзець, як нашы бабкі, пад уласнай страхой! Далей жа на шырокія шляхі краіны, якой 1000 і 20 год!

**ВЕРА ЛЕЎЧУК**



**ЭТНАГРАФІЧНЫ КУТОК**

**Нараўка. Будынак пошты.**

Фота: Ул. Юзвюк

## НА ТЭМУ ЗДАРОЎЯ

Прэзідыум ВРН у Беластоку арганізаваў чарговую прэсканферэнцыю. Цяпер на тэму здароўя і грамадскай апекі. Журналістаў паінфармавана аб галоўных напрамках працы ў гэтай галіне на наступаючыя гады. Яны: лячніцтва на вёсцы, туберкулёз, грамадская апека — дзейнасць Польскага камітэта апекі, інвестыцыі ў лячніцтве. У інвестыцыях будземназіраць канцэнтрацыю фінансавых сродкаў.

На многія пытанні журналістаў адказвалі намеснік старшыні ПВРН Людвік Ахоцкі і працаўнікі Аддзела здароўя на чале з кіраўніком Антонім Дарожка. (вл)

## У СВЕЦЕ МУЗЫКІ

Другі ў новым годзе канцэрт Беластоцкага сімфанічнага аркестра з удзелам слаўнай піяністкі Барбары Гэсэ-Букоўскай павёў, пасля доўгага перарыву па прычыне хваробы, Ян Куляшэвіч. Бах, Франк, Карловіч — кампазітары, якіх твораў мы слухалі. Мечыслава Карловіча былі добра выкананы «Тры адвечныя песні». Яны „O wiekuistej tęsknocie”, „Miłość i śmierć” і „Wszechbyt”. У сваіх песнях Карловіч на мову сімфонікі пераклаў народныя мелодыі. Матыў да смерці з другой песні узяў з беларускай народнай песні. (вл)



Сарны з Беластоцкага звярынца.

Фота: А. К.

# БЕЛАРУСКІЯ ГОСЦІ ў ЛОДЗІ

Нядаўна наведала Лодзь дэлегацыя БССР, якая гасціла ў Польшчы ў складзе віцэ-міністра Міністэрства культуры БССР тав. Грыгорыя Мачуліна і дырэктара дывановага камбіната ў Віцебску Дзімітрыя Пятрова.

Госці агледзелі найцікавейшыя куткі горада, нанеслі візіты прадстаўнікам адміністрацыйных улад і партыйнаму кіраўніцтву, наведалі фабрыкі, а таксама лодзінскае кінаатэлье, дзе мелі магчымасць пазнаёміцца з умовамі працы адной з найбольшых у краіне кінастудый. Беларускія госці сустрэліся таксама ў клубе ТПСД з мясцовым культурным актывам.

У сувязі з прабываннем беларускай дэлегацыі ў Лодзі, хочацца хоць у двух словах расказаць аб дзейнасці мясцовага клуба Таварыства польска-савецкай дружбы ў напрамку азнаямлення наведвальнікаў клуба з жыццём БССР, з яе эканомікай і культурай.

Ідучы насустрач наведвальнікам, зацікаўленым беларускай тэматыкай, кіраўніцтва клуба не пашкадавала намаганняў, каб стварыць як бы «беларускі» куток, дзе сабрана значная колькасць матэрыялаў аб БССР.

Калі яшчэ два-тры гады назад беларускія кнігі ў Лодзі можна было дастаць толькі ў бібліятэцы Рускага грамадска-культурнага таварыства, прычым колькасць загалоўкаў не перавышала дваццаці - дваццаці пяці, дык цяпер клуб Таварыства польска-савецкай дружбы ў Лодзі, які падтрымлівае пастаянныя кантакты з братнімі арганізацыямі БССР, мае салідную, актуальную і шматбаковую падборку беларускіх выданняў як на беларускай, так і на рускай мовах.

У дні прыезду беларускіх гасцей у клубе якраз экспанавалася выстаўка навейшай беларускай кнігі. Чаго там толькі не было! Звяртае на сябе ўвагу цікавае афармленне выданых у Мінску кніжак, альбомаў і справачнікаў. Высокі тэхнічны ўзровень, паліграфічныя якасці выдаваных беларускімі выдавецтвамі кніг прыцягвае ўвагу аматараў добрай і прыгожай кнігі.

Кіраўнік клуба тав. Залеская расказала нам аб працы клуба ў галіне польска-беларускага руху. Яна адзначыла, што ў рабоце клуба ТПСД беларускі куток стаў ужо традыцыяй, што яму прысвячаецца шмат увагі ў агульнай праграме працы Таварыства польска-савецкай дружбы.

Кіраўнік клуба, у прыватнасці, прыпомніла, што кантакты ТПСД з беларускімі пісьменнікамі датуюцца яшчэ тым часам, калі ў Польшчы выходзіла газета «Вольнасць», выдаваная на польскай мове. Адным з рэдактараў гэтай газеты быў беларускі пісьменнік Прокша, які цяпер жыве ў Мінску і вельмі цікавіцца кантактамі паміж беларускім і польскім таварыствамі культурнай сувязі.

На выстаўцы наведвальнікі бачылі беларускі перыядычны друк: «Звязду», «Савецкую Беларусь», «Літаратуру і Мастацтва», «Беларусь», «Нёман» і шмат іншых.

Сярод прадстаўленых кніг — літаратура, публіцыстыка, мемуары, кнігі для дзяцей, беларуская класіка, паэтычныя зборнікі і г. д. Звяртае па сябе ўвагу літаратура, прысвечаная II сусветнай вайне, гітлераўскім злачынствам.

Тав. Залеская з цеплынёю ўспамінае наведванні Лодзі беларускімі пісьменнікамі і грамадскімі дзеячамі. Асабліва радасна прайшла сустрэча з Максімам Танкам, які знайшоў у Лодзі сваіх быўшых паплечнікаў супольнай рэвалюцыйнай барацьбы. Аб гэтых сустрэчах у свой час ужо пісалася на старонках «Нівы». Выступаў у Лодзі і прадстаўнік маладога беларускага пакалення ў Народнай Польшчы, паэт і навуковы супрацоўнік Аляксандр Баршчэўскі.

Лодзь падтрымлівае з Мінскам ажыўленыя кантакты. У сваю чаргу з Лодзі ў Мінск ідуць польскія кнігі, якія расказваюць аб жыцці сацыялістычнай Народнай Польшчы. У цесных узаемных кантактах расце і мацнее дружба польскага і савецкага народаў.

Беларускія госці, пакідаючы Лодзь і развітваючыся з лодзінскім актывам, падкрэслілі неабходнасць умацоўвання ўзаемных сувязей, адзначылі карысць, якую даюць беспасрэдныя, блізкія кантакты.

**ЛЕАН ПАНТА**

* * *

## Перадз'ездаўская ТРЫБУНА

# Змяніць стыль працы

**Уздым перадз'ездаўскай дыскусіі — гэта добрая з'ява. Яна сведчыць аб тым, што ёсць сябры, якія шукаюць метадаў, каб можна было дапамагчы БГКТ, а пераважна вясковым гурткам выйсці з маразму ў культурна-асветнай працы.**

**Не збіраюся падсумоўваць дыскусію, але не магу памінуць выражаную ў перадз'ездаўскай дыскусіі на старонках «Нівы» прапанову «ліквідаваць гурткі, а працаваць з усім насельніцтвам». Мне здаецца, што калі рэальна разгледзець гэтую тэорыю, дык яна не будзе мець прыхільнікаў.**

**У доказ гэтага ўзнікае пытанне: як разумець працу з усім насельніцтвам без гурткоў, калі і членаў гуртка часта цяжка склікаць на сход? Альбо, хто будзе склікаць насельніцтва і вясці культурна-асветную працу з насельніцтвам без гурткоў?**

**Хацеў бы ўпэўніць чытачоў, што нікога не падазраваю ў сафізме, але, крытычна кажучы, ад гэткай тэорыі, па-мойму, ліквідатарствам заносіць. Інакш, хіба, аўтары гэтай прапановы мелі на думцы правесці метамарфозу насельніцтва і тады мо ўзнікне магчымасць наставіць аўтаматычна культурна-асветную працу з усім насельніцтвам.**

**Культурна-асветная праца ані простая ані лёгкая. Яна невымераная, неакрэсленая без граніц, без сталай формы. Каб культурна-асветную дзейнасць вясці ў рамах арганізацыі і планава развіваць яе этапамі, у першую чаргу яна мусіць мець сваіх прыхільнікаў у даным асяроддзі (умоўна назавем іх актывам), якія будуць працаваць з усім насельніцтвам. Але і таму актыву патрэбна сталая інструкцыйна-метадычная дапамога, ці то ад мясцовых педагагічных сіл ці даязджаючага інструктара. І гэты перадавы актыў будзе расці ў гуртках БГКТ.**

**Як вядома, культура і асвета, як да горада, так і да вёскі даходзіць праз радыё, тэлевізар, кніжку, друк, кіно і г. д. Таму ў сучаснасці культурны прагрэс адбываецца ўсюды і ўжо мае свае, прычым вялікія, дасягненні, як у сельскай гаспадарцы, у жывёлагадоўлі, у будаўніцтве і г. д., так і ў сямейным і асабістым жыцці.**

**Культурна-асветная дзейнасць у многіх вёсках вядзецца найчасцей стыхійна, бяспланава, несістэматычна. Нярэдка бывае і так, што загараецца энергія, але хутка і гасне, як у прыказцы саламяны агонь. А чаму? Па-мойму таму, што: 1) надта мала ўвагі прысвечана справам падбору і падрыхтоўцы тых, так вельмі патрэбных, перадавых кадраў; 2) няма ўніклівай апекі над культурна - асветнай дзейнасцю з боку камісіі асветы, культуры і здароўя Прэзідыума ГРН і 3) абсалютны недахоп каардынацыі працы. Гэта адзін з найбольшых недахопаў у культурна-асветнай працы, бо колькі ёсць у вёсцы арганізацый і ўстаноў, створаных для культурна - асветнай працы, дык усе яны „Każdy sobie rzepkę skrobie”. І нярэдка ў тым стыхійным руху загубляюцца найлепшыя таленты.**

**Таму прапаную:**

**1) Змяніць стыль культурна - асветнай працы ў спалучэнні з усімі ўстановамі і арганізацыямі, існуючымі ў вёсцы (ЗМВ, сельгасгурток, гурток вясковых гаспадынь, бібліятэкі, клуба - кавярні, школа і іншыя), супольна праводзіць планава і сістэматычна культурна - асветную дзейнасць з усім насельніцтвам.**

**2) Дамагацца актывізацыі і канкрэтнай каардынацыі працы і фінансавых сродкаў, пачынаючы ад вярхоў і дамагацца яе дзеяння ў грамадскіх радах нарадовых.**

**3) Праз каардынацыю працы ўключыць план працы гуртка БГКТ да агульнаграмадскага плана культурна-асветнай працы на 1965/66 навучальны год.**

**4) Старацца, каб гурткі БГКТ узялі пад сваю апеку грамадскія бібліятэкі і існуючыя ў кожнай вёсцы бібліятэчныя пункты, а ў планах працы павінна знайсціся папулярызацыя чытання кніжак, асабліва на беларускай мове.**

**Такім чынам і іншымі актывізуецца культурна-асветная праца многіх гурткоў, якія стануць добрым прыкладам для тых гурткоў і вёсак, у якіх дагэтуль культурна-асветнай працы не вялося.**

**АРЦЁМ ЧЫКВІН**

Бельск - Падляшскі



 

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# За механічнага каня!

Сярод шматлікіх тэм на курсах сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, дзе даволі глыбока закранаюцца праблемы сельскай гаспадаркі, парушаюцца справы механізацыі сельскай гаспадаркі. У гэтым няма нічога дзіўнага, бо ва ўмовах Беласточчыны, якая належыць адной з першых у Еўропе па колькасці коней на 100 гектараў, гэта першачарговыя справы. Ламаючы старыя традыцыі, прывязанасць да каня, на якім скура аж блішчыць, даказваючы, што машыны працуюць хутчэй, дзешавей і лепш, пачалася цяжкая праца над механізацыяй сельскагаспадарчых работ у сельгасгуртках. Першыя трактары з'явіліся на нашых вёсках каля пяці год назад. Тады яны зацікавілі аптымістаў і занепакоілі тых, што ва ўсіх дашукваюцца злога.

Цяпер у беластоцкіх сельгасгуртках ёсць каля 2030 машына-трактарных камплектаў. Вялікія дасягненні ў гэтай галіне маюць Сямяціцкі, Гайнаўскі і Бельскі паветы. Там пачаткова праца была накіравана на колькасць, але цяпер сістэматычна працуецца над якасцю як выкананых механічных паслуг, так і эканамічных вынікаў.

Цікавым прыкладам можа паслужыць грамада Смаркліцы. Сяляне маюць там добрыя глебы, вырошчваюць прамысловыя расліны. Да гэтага часу на многіх гаспадарках не хапала рук да працы. Пры вырошчванні, напр., цукровых буракоў ёсць значна большы ўклад ручной працы, чым пры збожжы. Тое самае можна сказаць і аб фінансавай карысці. Значыць, можна дазволіць сабе на дапамогу сельгасгуртка. Так хутчэй і дзешавей. Выдадзеныя на гэта грошы вернуцца з лішкам.

Іменна ў Смаркліцах запісаны найбольшы даход за паслугі трактара на адну гаспадарку. Аплаты ад адной гаспадаркі тут склалі 18 тыс. зл. Многія гаспадары ўплацілі на конта сельгасгуртка да дваццаці тысяч за выкананыя палявыя работы. У такіх умовах механізацыя мае вялікія шанцы. І таму зусім правільным з'яўляецца накіраванне ў гэты раён больш трактароў.

У механізацыі беластоцкай вёскі заўважаецца некалькі нядобрых з'яў. Да іх можна залічыць вялікую раскіданасць машын, цякучасць кадраў трактарыстаў і механікаў, слабое выкарыстоўванне машын у некаторых гуртках (менш тысячы гадзін на трактар), дрэнны догляд за машынамі, дрэнная якасць рамонтаў, слабая дапамога з боку спецыялістаў.

Трактар — гэта складаная машына. Ён мае каля 5 тыс. частак. Няўмелы абыход з трактарам будзе прычынай хуткага ламання частак і павышае кошты рамонту. Каб трактар «зарабіў» на сябе, ён павінен прапрацаваць у год 1000 — 1200 гадзін. Яго трэба клапатліва даглядаць, асабліва перад зімою. На жаль, можна яшчэ спаткаць на вёсцы брудныя, нязмазаныя, неадрамантаваныя ў адпаведным часе трактары. Нямала машын стаяць пад даждджом зусім не пакрытыя. А можна ж забяспечыць іх ад уздзеяння атмасферных ападаў нават тады, калі няма гаражаў.

Нельга таксама забываць, што механізацыя павінна быць сур'ёзным прадметам у сельскагаспадарчых школах, у школах і на курсах ПР, у час масавага сельскагаспадарчага навучання. Добра было б, каб лепш арыентаваліся ў справах механізацыі члены праўлення гурткоў. Тады напэўна лепш клапаціліся б аб супольным маёнтку.

**Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ**

# Добры старт — удачны лёт

Часта чуецца галасы, нібы камісія па сутнасці не адыгрывае ролі ў кіраванні нашай гаспадаркай, што камісія толькі пацвярджае тое, што намераны рабіць выканаўчыя органы. Ці сапраўды гэта так?

Вось маленькі адрэзак працы камісіі плана бюджэту і фінансаў павятовай рады ў Бельску Падляшскім. З зацікаўленнем можна было слухаць на сесіі павятовай рады заўваг камісіі да праекта плана і бюджэту на 1966 год. Ва ўступе заўваг камісія сцвярджае, што дырэктыўныя паказчыкі як падкладка да апрацавання праектаў плана надыйшлі вельмі позна, і адсюль праект плана апрацаваны не надта дакладна. А гэта вельмі дрэнна адбіваецца на іх рэалізацыі.

Камісія ўсебакова аналізавала заданні плана паасобных галін павятовай гаспадаркі. І сцвердзіла, што план рэальны. Але камісія мае вялікія засцярогі да некаторых галін гаспадаркі, для якіх прадбачваецца дынаміка ўзросту прадукцыі на 85%. Ці гэта не будзе план для плана? — слушна ставіць пытанне камісія.

У заўвагах знаходзім усебаковы аналіз плана ў галіне сельскай гаспадаркі. Апрацоўваючы праект плана, мясцовы аддзел сельскай гаспадаркі прымяніў іншы, чым агульна прыняты, метад апрацоўвання планаў. (Хачу дадаць, што метад гэты ўстарэлы і абсалютна не згодны з пастановамі партыі і ўрада ў гэтай галіне). Палягае ён на тым, што замест таго, каб плануючы на 1966 г. абапірацца на сярэдніх ураджаях **з апошніх чатырох год**, тут абаперліся толькі на паказчыках з 1965 г. У выніку таго запланаваны ўзрост ураджайнасці 4-ох асноўных збожжавых на 1,2%, што абазначае 16,5 цэнтнераў з гектара, а бульбы на 26%, прыймаючы 170 цэнтнераў з гектара.

Камісія плана і бюджэту пасля ўсебаковага аналізу сцвердзіла, што як на бельскія ўмовы гэтыя паказчыкі вельмі высокія. Сярэдняя ўраджайнасць чатырох збожжавых у Польшчы складае 17,1, а бульбы 153 цэнтнеры з гектара. Ці сапраўды сельскагаспадарчая культура ў Бельскім павеце на столькі высокая, што можа перавышаць агульнакраёвыя паказчыкі?

Дагэтуляшняя практыка паказвае, што калі будуць лепшыя ўмовы, дык планаваныя заданні можна перавысіць. Адсюль узнікнуць рэзервы, якія могуць быць выкарыстаны ў нашай гаспадарцы. Напрыклад, у мінулым годзе перавышана планы алеістых. Гэта дазволіла частку насення экспартаваць і пакрыць пэўныя «люзы» ў балансе загранічнага гандлю. Гэта праўда, што ўраджай бульбы ў мінулым годзе абніжыўся ў Польшчы па прычыне надмернай вільготнасці. Аднак больш усяго выступіла гэта ў Вроцлаўскім, Зялёнагурскім, Апольскім, Жэшаўскім і Люблінскім ваяводствах. Адным словам, у тых гаспадароў, дзе землі цяжэйшыя і немеліераваныя. Значна менш адчулі гэта людзі, гаспадаруючыя на лёгкіх глебах. У многіх выпадках кліматычныя ўмовы мінулага года былі карыснымі для гаспадароў. Іменна таму камісія заявіла, што абапірацца ў планаванні на дадзеных 1965 г. нельга. А завышэнне паказчыкаў ураджайнасці ў адносінах да агульнакраёвых — нерэальнае. Далей камісія зварочвае ўвагу на тое, што аддзел сельскай гаспадаркі ў прынятых напрамках дзейнасці абсалютна не ўспамінае аб гадоўлі курэй. Развіваючы курыныя фермы, можна было б павялічыць колькасць курынага мяса, якога міма спрыяльных умоў у нас не хапае, а з другога боку — далей інтэнсіфікаваць нашую вёску.

Гаворачы аб сельскай гаспадарцы, нельга памінуць справу развіцця агародніцтва. Штопраўда, сітуацыя на мясным рынку мае значна палепшыцца, аднак усё ж не забяспечыць нашых патрэб. Дзеля гэтага кампенсацыі трэба будзе далей шукаць у гародніне і фруктах. На жаль, размеркаванне, перапрацоўчая прамысловасць і перахоўванне іх далёка не такія, якімі павінны быць. Існуючая ў Бельску агародніцка-пчалярская спулдзельня толькі ў пэўнай меры можа пасляваць за патрэбамі гандлю. Неабходна пашырыць у Бельскім павеце парніковую (інспектавую) прадукцыю і пабудаваць адпаведныя камеры для перахоўвання.

Камісія звярнула ўвагу, што гандаль у Бельску не атрымоўвае новых памяшканняў на крамы раўнамерна з пабудовай новых жылых дамоў. Як прыклад, дзе правільна развязана гэтая справа, падаецца Замбраў. Тут амаль у кожным будынку ёсць крама або пункты паслуг для насельніцтва.

Многа яшчэ можна пісаць аб працы і праблемах камісіі. Мы абмежаваліся да адрэзка гэтай працы. Але каб яго абагульніць і паставіць свае вывады, трэба было не толькі часу, але і ведаў. Ведаў не тэарэтычных, кніжных, але непасрэдна звязаных са сваім паветам, гаспадаркаю і магчымасцямі. І гэта рабілі грамадскія дзеячы, а не штатныя працаўнікі рады.

Лічым гэта як добры старт працы камісіі. А ад добрага старту, гавораць залежыць удачны лёт.

**АЛЯКСЕЙ КАРПЮК**

**У ліпені 1863 года Врублеўскі перайшоў у Белавежскую пушчу. Пакуль гэта адбылося ў чэрвені вёў зацятыя баі пад Жаркоўшчынаю, у раёне Дабраволі супольна з Духінскім стварылі сваю базу і адтуль выхадкамі ўдаралі ў напрамку на Беласток і Кобрын. Добра ведаў гэтую тэрыторыю паўстанцкі палкоўнік, ён жа ж у 1861 годзе пасля заканчэння вучобы ў Лясным інстытуце прыняў пасаду інспектара лясной школы ў Саколцы, якая знаходзіцца ў палове дарогі з Беластока ў Гродна, а тады ж будавалі чыгунку з Варшавы ў Пецярбург, пры якой працаваў інж. Шварц і якой шлях вёў праз Беласток, Саколку і Гродна.**

### З РАДОЎ ВОРАГА Ў ПАЎСТАНЦКУЮ ПАРТЫЮ

**Зацятыя баі вёў Врублеўскі ў раёне Мастоў. Там дзейнічалі супольна: ён, Нарбут, Вашкевіч і Толкін.**

**Толкін, імя якога, на жаль, не ведаем, яшчэ ў барацьбе пад Сямяцічамі, якая адбылася 7 лютага, прымаў удзел як афіцэр рускіх войск. Нястомны карпатлівы даследчык матэрыялаў да пытання аб гісторыі студзеньскага паўстання на Беласточчыне рэдактар Рышард Краська сабраў многа дадзеных аб дзейнасці гэтага рускага афіцэра, а потым паўстанцкага камандзіра. Далучыўся ён да паўстання ў красавіку 1863 года і даўжэйшы час на чале невялікай групы вёў партызанскую барацьбу ў аколіцах Саколкі. Прымаў удзел у чэрвеньскіх бітвах пад Мэрэчаўшчызнаю і Заркаўшчызнаю. Потым з групаю Духінскага - Врублеўскага перайшоў у Белавежскую пушчу. Пазней супольна з атрадам Вашкевіча перапраўляўся праз Нарву. Рышард Краська ўстанаўляе гэта ў аколіцах Вільчага Горла, і адтуль меўся Толкін ісці пад Тапаляны. Потым змагаўся са сваімі людзьмі ў атрадза Багуслава Эйтмінавіча. 19 верасня 1863 года ў бітве пад Лукавіцаю пасля некалькіх паспяхова адбітых атак варожай пяхоты і кавалерыі гіне Толкін смяротна ранены куляю, а пазней дабіты казацкімі пікамі.**

### З КРАІНЫ НА ЭМІГРАЦЫЮ

**У Белавежскай пушчы сітуацыя паўстанцаў Врублеўскага рабілася ўсё больш цяжэйшай. Многія камандзіры і камісары нацыянальнага ўрада былі схвачаны, многія з іх, як Серакоўскі ці Топур Звіндоўскі, а потым Кастусь Каліноўскі, былі зняволены і атрымалі смяротны прыгавор. Не вышаў марскі паход палкоўніка Лапінскага, які праз Балтыйскае мора меў даставіць з Англіі запас зброі для атрадаў, якія змагаліся на Літве, на Гродзеншчыне і ў Белавежскай пушчы. У атрадах Врублеўскага адчувалі недахоп ва ўзбраенні. Не могучы па прычыне недахопу ўзбраення і забеспячэння зрабіць з Белавежскай пушчы выходнай паўстанцкай базы, позна восенню 1863 года Валеры Врублеўскі са сваім атрадам праходзіць Буг і змагаецца далей на поўначы Любліншчыны, найперш на Падляшшы, а потым у сярэдняй частцы Люблінскага ваяводства. У гэтых змаганнях мінуў лістапад і снежань, а ў студзені 1864 года надышлі маразы. 19 студзеня 1864 года Врублеўскі пераходзіць Тысьменіцу і, мінуўшы Ядлянку — пад Усцімовам, на шашы сустракаецца з пераважаючымі сіламі ворага. У час сутычкі Врублеўскага ранілі два разы ў галаву і плячо, а яго атрад ідзе ўрассыпную.**

**Схаваны мясцовымі сялянамі ў пуні, а потым у двары ў Завяпрыцах Балеслава Складоўская - Гіндэмітовая вывезла яго, пасля частковага вылячэння з ран вывезлі яго ў Галіцыю. Адтуль, пасля побыту ў шпіталі для паўстанцаў у Дзікове, вылечаны з ран Врублеўскі едзе ў Парыж. Адкрываецца пахвальны новы перыяд яго жыцця. Пачынаецца дарога, якая вядзе паўстанцкага камандзіра з Белавежскай пушчы на барыкады парыжскай камуны.**

# БГКТ у 1965 г.

(Працяг са стар 1)

**нізаванні лектаратаў, семінараў, з Міністэрствам асветы, КОСБ, інспектаратамі, ЗНП і школамі ў правядзенні канферэнцый, нарад, супольным разгляданні спраў арганізацыйнага характару, кальпартажа выдавецтваў ГП, арганізаванні экскурсій, канцэртаў эстрады, з ГС-ам у Белавежы ў галіне арганізавання рэгіянальнага музея і г. д. Асабліва карыснымі былі сувязі з Беларускім таварыствам культурнай сувязі ў Мінску ў галіне абмена выдавецтвамі, прэсай, а таксама індывідуальныя кантакты з вучонымі, пісьменнікамі і артыстамі БССР.**

**У мінулым 1965 годзе далей вёўся 15-мінутны адзін раз у тыдзень «Беларускі магазін» пры Польскім радыё ў Беластоку. У сувязі з тым, што не заўсёды ён трансліруецца па радыёвузлах у паўднёва-ўсходняй частцы Беласточчыны, БГКТ праводзіла радыёгутаркі на беларускай мове. На падставе 47 апрацаваных у ГП тэкстаў прачытана па ўспамянутых радыёвузлах 251 радыёгутарка. Асаблівых поспехаў дабіўся Сакольскі аддзел, які ў двух радыёвузлах (Саколка і Крынкі) правёў 103 гутаркі. Тэматыка гутарак была вельмі розная па зместу — сельскагаспадарчая, выбарчая, 40-годдзе Грамады, беларуская літаратура, дзейнасць БГКТ, асвета, адзначэнне гадавін і г. д.**

**Праведзена на працягу года 116 дакладаў і 265 гутарак перад кінасеансамі, канцэртамі. На падкрэсленне заслугоўваюць тут члены ГП таварышы Дзяменовіч М., Шатыловіч С., Баршчэўскі А., Другавец Л., а таксама лектары В. Склубоўскі, Ул. Паўлючук і іншыя.**

**Праведзена 49 аўтарскіх сустрэч з насельніцтвам і школьнікамі, 2 павятовыя нарады настаўнікаў беларускай мовы, 4 сустрэчы, 12 экскурсій і 12 урачыстасцей. На ўвагу заслугоўваюць праведзеныя 16 конкурсаў, у тым ліку асабліва эфектыўны чытальніцкі конкурс, арганізаваны супольна з куратарыумам, на які прыслана звыш 100 дзіцячых прац, спявачы конкурс, на экспанаты беларускай матэрыяльнай культуры і іншыя. Агульная сума ўзнагарод на конкурсы склала 34700 злотых.**

**Чытальнасць беларускіх кніжак далей была незадавальняючай, хоць заспакойвалася з трох крыніц: публічных бібліятэк, школьных і бібліятэк БГКТ. Паводле дадзеных Ваяводскай бібліятэкі, мелася тут 11856 кніжак і зарэгістравана 15000 пазычэнняў. Далейшы ўзрост чытальніцтва проста немагчымы з увагі на неатракцыйнасць беларускага кнігазбору, папоўніць які, на жаль, ужо звыш 3 год няма чым. Адзіным навейшым беларускім кнігазборам можа пахваліцца толькі бібліятэка Гарадскога аддзела ГБКТ у Беластоку, якая мае 4250 кніжак і далей папаўняе іх лік дзякуючы кантактам арганізацыі з установамі і паасобнымі людзьмі БССР. Разам 7 бібліятэк Беларускага таварыства налічваюць 9370 кніжак і мелі каля 1500 выпазычэнняў.**

**У галіне аматарскага руху мінулы год быў мала актыўным. Апрацавана было 10 сцэнічных пастановак і яны былі адбіты на шклографе ў колькасці 600 штук. Выйшла ў літаратурным альманаху № 1 п'еса А. Баршчэўскага «Гарадскія госці». Лік аматарскіх калектываў зменшыўся да 59, з якіх згодна з ацэнкай на цэнтральным аглядзе ў Беластоку найлепшым аказаўся драмгурток з вёскі Белявічы Беластоцкага павета, а наступныя месцы занялі гурткі з Вілінава, Паўлаў і Ляшукоў.**

**Эстрадны калектыў «Лявоніха» даў 171 канцэрт, якія аглядала 20508 гледачоў. Быў гэта найслабейшы год яго працы ад заснавання.**

**Харавы калектыў Бельскага аддзела БГКТ, які існуе ад студзеня 1965 года даў 13 канцэртаў.**

**Знамянальнай падзеяй у жыцці БГКТ быў прыезд на Беласточчыну ў днях 11—27. X. вядомага беларускага спевака, пражываючага ў Чэхаславакіі, Міхася Забэйды - Суміцкага, які даў 8 канцэртаў, меў некалькі сустрэч і запісаў на плёнку 11 народных песень.**

**Два творчыя аб'яднанні ГП — літаб'яднанне «Белавежа», і навуковы гурток працягвалі працу. Члены літаб'яднання мелі два літсемінары, падрыхтавалі 12 літстаронак у «Ніве» і найбольшую публікацыю ГП БГКТ «Літаратурны альманах № 1 «Белавежа», у якім выступіла 23 аўтары.**

**Члены навуковага гуртка рыхтуюць наступны навуковы зборнік.**

**У канцы мінулага года выйшаў з друку «Беларускі каляндар на 1966 год», прысвечаны 10-годдзю таварыства.**

**На 1965 год прыпала некалькі вялікіх акцый. Былі гэта выбары ў Сейм і рады нарадовыя ПНР, у якіх актыў БГКТ браў актыўны ўдзел. У распараджэнне камітэтаў Фронту адзінства народа былі прадстаўлены эстрада «Лявоніха», кіно ГП, лектары, былі апрацаваны 4 радыёгутаркі, а «Ніва» замясціла шматлікія артыкулы.**

**Другім мерапрыемствам было запачаткаванне адзначэння 40-годдзя Грамады, якое стала агульнаваяводскім, нават агульнадзяржаўным святкаваннем. Ваяводская акадэмія ў Беластоку, вялікая выстаўка, навукова-папулярная сесія Грамады, абслуга гурткоў БГКТ, каментарыі прэсы, фестыны, радыёгутаркі і г. д. выдатна садзейнічалі папулярызацыі дзейнасці гэтай найвялікшай у сваім часе арганізацыі сялян.**

**У 1965 годзе, дзякуючы супрацоўніцтву з ГС-ам у Белавежы, які перадаў на музеальныя патрэбы будынак, пачалі збор і да канца года падрыхтавалі да экспазіцыі звыш 260 экспанатаў матэрыяльнай культуры. Сярод гэтых экспанатаў ёсць унікальныя прылады працы, камплект ганчарных вырабаў паўднёва - ўсходняй Беласточчыны, вырабаў з саломы, абсталявання цэлых кустарных промыслаў, многа такіх экспанатаў, якія дагэтуль не былі зусім вядомы беларускім музеям.**

**Гэты кароткі артыкул няхай паслужыць яшчэ адной крыніцай у падрыхтоўцы да дыскусіі на V з'езд БГКТ.**

**Сакратар ГП БГКТ**
**Ул. ЮЗВЮК**



З СССР

Так выглядае цэх прадукцыі капрону на камбінаце сінтэтычнага валакна ў Курску.

Фота: ЦАФ

*на шырокім свеце*

# Пачварная Радэзія

Нельга памяншаць гістарычнай і актуальнай адказнасці Англіі за тое, што 11 лістапада 1965 г. радэзійскія асаднікі стварылі сваю пачвараватую дзяржаву, у якой 220 тысяч белых асаднікаў стварыла сабе неабмежаваную ўладу над чатырохмільённым мясцовым афрыканскім насельніцтвам. Гэта непасрэдны вынік стогадовай англійскай каланіяльнай палітыкі, стогадовай агрэсіі, злачынстваў і камбінацый. Як выглядала сто год таму назад сітуацыя на тэрыторыі цяперашняй Радэзіі?

На гэтай зямлі існавала, пачынаючы недзе ад XIII ст., моцная дзяржава Манаматапа. Сталіцаю з'яўлялася Вялікае Зімбабве, руіны якога па сенняшні дзень здзіўляюць падарожнага сваімі 10-метровымі сценамі і 15-метровымі вежамі. Руіны Зімбабве знаходзяцца на палове дарогі паміж Сальсберы і Булавайо, значыць, у самым цэнтры Радэзіі. Доследы вучоных сведчаць аб тым, што росквіт гэтага горада і гэтай цікавай цывілізацыі адбываўся ў перыядзе паміж 1250 і 1750 гадамі, а яе пачаткі былі значна ранейшыя. Гэта дзяржава стварыла ўласную высокую цывілізацыю, будаваліся цікавыя будоўлі з камення, выплаўлялася жалеза і медзь, рабіліся манеты ў выглядзе літары Н.

Англійскія агрэсары на чале са славутым Радэзам, на руінах гэтай афрыканскай дзяржавы і яе старой культуры стварылі сваю калонію, якая стала ўласнасцю Брытанскай паўднёваафрыканскай кампаніі. Гэту калонію назвалі Радэзіяй — у гонар правадыра англійскіх галаварэзаў Назва «Радэзія» — гэта абраза і паніжэнне Афрыкі, гэта асмяшэнне Афрыкі, гэта сімвал агрэсіі, здрады, грабяжу і гвалтаў.

Англійскія галаварэзы і гвалціцелі хутка сталі шаноўнымі бацькамі багатых сем'яў з белатварымі дзяцьмі, сталі плантатарамі і пастушынымі каўбоямі незлічоных чарод быдла. Зямлю Зімбабве патрактавалі больш-менш так, як героі амерыканскіх уэстэрнаў Дзікі Захад. Афрыканцам адабралі ўсё — гонар, годнасць, зямлю, быдла, свабоду. Асаднікі пабудавалі новую сталіцу і назвалі яе імем лорда Сальсберы, англійскага прэм'ера, які з Лондана апекаваўся пачынаннямі Радэза, пад канец мінулага стагоддзя (1893 г.) Белыя асаднікі і іх прывазныя еўрапейскія жонкі масава наплылі сюды пасля першай сусветнай вайны, а асабліва многа паявілася іх тут пасля апошняй сусветнай вайны, пакідаючы галодную і паўздзічэлую ўжо Еўропу. Занялі тут дарэшты ўсе найлепшыя землі, кіравалі прамысловасцю, банкамі.






У Радэзіі ўжо ад 1923 года — гэта значыць, ад часу, калі Англія пераняла ад Паўднёваафрыканскай кампаніі суверэнную ўладу над гэтай краінаю — асаднікі маюць уласны ўрад, уласную адміністрацыю і ўласную паліцыю. Хто ведае, які быў бы лёс, напрыклад, Алжыра, калі б ОАС-аўцы мелі легальную армію (паліцэйскую), урад, адміністрацыю, незалежную ад Парыжа, так, як незалежная ад Лондана радэзійская адміністрацыя. (?)

11 лістапада мінулага года асадніцкі ўрад Радэзіі аб'явіў «незалежнасць» Радэзіі. Трэба аднак ведаць, што гэта «незалежнасць» сцісла залежыць ад падтрымкі партугальскага каланіялізма і Паўднёваафрыканскай Рэспублікі. Толькі праз парты партугальскага Мазамбіка і Паўднёвай Рэспублікі Радэзія можа мець доступ да свету — можа атрымаць нафту і другія тавары, якіх не атрымае ў ніякай іншай краіне свету — згодна з пастановамі Савета Бяспекі ААН. Паўднёваафрыканская Рэспубліка дае Радэзіі ўзбраенне, стратэгічную сыравіну, запасовыя часткі і грошы. Радэзія здольна ламаць сусветную блакаду дзякуючы ціхаму пасрэдніцтву Паўднёваафрыканскай Рэспублікі і Партугаліі — тайнымі шляхамі прадае за граніцу свой цукар, тытунь і інш. Радэзія стала як бы неафіцыйнай калоніяй Паўднёваафрыканскай Рэспублікі. Гаворачы гэта, трэба ведаць, што амаль палова асаднікаў і значная частка міністраў урада Сміса паходзіць з гэтай Рэспублікі.

Сярод афрыканскага насельніцтва Радэзіі масавае беспрацоўе, голад, паміраюць дзеці. Расце агульная дэмаралізацыя, злачынствы і прастытуцыя. Белы асаднік жыве ў камфортнай віле, з агародам і плывальным басейнам (мармуровым). А людзі старой цывілізацыі Зімбабве асуджаны на жабрацкае жыццё.

Такая Радэзія вельмі падобная да бомбы замаруджанага дзеяння, якая можа ў кожную хвіліну ўзарвацца. (а-ся)

Аляксей Карпюк

# Пушчанская адысея

Хлопцы закідваюць трафеі на падводу, валакуць скрыні з маслам, кошыкі. Падводы здаліся нам патрэбныя, калі мы складалі план выправы. Але паспяваю скеміць, што справа выглядае сур'ёзней, чым нам здавалася ў лесе. Галоўнае мы выканалі, цяпер трэ выносіць ногі!

— Адставіць!

— Чаму-у?

— Не ўсе самаахоўшчыкі паспелі сабрацца. Яшчэ столькі іх па хатах сядзіць!

— А як жа гэта?.. Столькі дабра-а!

— Забіраць на плечы, павалачом!

— Эх, і падводы нарыхтава-аны...

Аднак хлопцы падпарадкоўваюцца. Чапляюць на сябе аўтаматы, дзесяцізарадкі, ідзём.

Выходзім за гумны, і ззаду па нас адкрываюць страляніну. Падаем у барозны, прытойваемся. Страляюць бязладна, кулі ідуць высока.

— Ану! — ківаю Кардашу.

— Бр-р-р! — выпускае Сашка цэлы дыск па платах і стрэхах.

— Бягом за гару!

Перавальваем за ўзгорак, уздыхаем з палёгкай.

— Каб паехалі падводай — амін! — з жахам заяўляе Косця. — У фурманку трапіць — раз плюнуць!

182

— Нейкі бог мяне наставіў у апошнюю хвіліну забараніць вам браць фурманку!

— Ну, сволачы, будзеце памятаць цяпер нас! — трасе кулаком узрадаваны Кардаш.

— Хопіць. Далей пайшлі!

Пляцёмся нагружаныя, як вярблюды, трафеямі, не можам супакоіцца. Успомнім што-небудзь, рагочам на ўсё поле.

— «Люкембах аўз дэм ягдкомандо Бялісток...» — дражніць мяне Кардаш. — Адкуль ты такое прозвішча выкапаў?

— Са Штутгофа на ра-бо-ту везлі нас до-ошкі выгружаць, га-га-га-га! І капо наш, начальнік такі быў, нямецкі бандыт, Люкембах... Прозвішча выб-раў добра знаёмае, каб язык не за-пытаўся! О-ой, ух-ха! — аддыхваючыся, стрымліваю ў сабе дзікую радасць.

— Ну, ладна, як было, так было, галоўнае — удалося, мы вырваліся з цэлымі галовамі! Цяпер наўрад ці хто з Каўнян захоча падняць вінтоўку супроць партызан!

— Не магу зразумець аднаго: як вы маглі так спакойна есці ў Тарноўскага? Я ад страху ледзьве на нагах стаяў, калені падгіналіся. Сеў на кухні, зараз жа мусіў выйсці, каб супакоіцца. А вы...

— Ты ба-аяўся? — дзівіцца Косця. — Не паверу!

— Вяртаюся потым з вуліцы, а вы сабе спакойна жраце, выпіваеце, нібы на хрысцінах...

— Не можа бы-ыць, каб ты баяўся! — ажыўляецца Кардаш. — Во, у мяне сапраўды ад страху ногі дрыжалі, часамі нічога не чуў і не бачыў. Але пагляджу на цябе, а ты спакойна пахаджваеш надзьмуты, нібы сапраўдны фашыст, і страх як рукой здыме. А потым...

— Альбо я! — перабівае Косця. — Едзем на фурманцы і куды, каб хто спытаў, чаго? Мо ў Каўнянах нас чакаюць браневікі?! Перад вачыма і жонка, і сыны: ну, быць вам сіротамі! Пагляджу на цябе, як ты ўпэўнена і бяспечна расселся на баране, кляну сябе, што нарадзіўся такім баязліўцам!

183

Здзіўлены гляджу на сябра.

— А я сябе часам пытаўся: а мо мяне немцы сапраўды злавілі? — устаўляе Міша.

— Га-га-га-га!

Лічу зброю, шчаслівы:

— Браткі ж вы мае, гэтым трафеем можна ўзброіць узвод!

— Апошнія духі выпірае! — пачырванелы камісар абапіраецца аб сасну, выцірае лоб і шыю. Хутчэй бы да Скрабляцкага, там частку пакінем беластоцкім...

— Чорт іх бяры, пакінем. Цяпер будуць берагчы, — згаджаюся, падаю на мох. — Камандзір мне не падабаецца. Мо Мішку паставіць, пакуль у атрад іх не перавядзём?

Мішка Лук'янаў дастаў з-пад ядлоўца свае боты, абуваецца, бліскае шчасліва вачыма.

— Няёмка крыўдзіць пажылога Смірнова, — шкадуе камісар. — І так, беднаму, дасталося. За ўсё жыццё такога страху не меў. Усё роўна ў Ліпніках камандзірам над імі будзеш адзін ты. Няхай пакамандуе пару дзён, Нікіціна з Лук'янавым спуску яму не дадуць, праўда Мішка?

— Перавядзіце нас да сябе сёння або заўтра, чаго чакаць?

На самай справе, чаму не падключыць іх да атрада зараз жа?

— Раніцой да вас заглянем, — абяцае Косця. — А вечарам перавядзём праз шашу, суткі пацерпіце?

— Вы-ыцерпім!

ПРАЦЯГ БУДЗЕ

184

# ТРЫБУНА чытачоў

## Сельскагаспадарчыя веды — гаспадарам

Ужо другі год вядзецца ў Паўлах, Бельскага павета, курс сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. На заняткі прыходзіць 68 гаспадароў. Цікавы склад удзельнікаў курсу. Разам з пажылымі гаспадарамі сельскагаспадарчыя веды здабываюць маладыя хлопцы. Адны з іх ужо з'яўляюцца паўнапраўнымі гаспадарамі, другія ў найбліжэйшым часе таксама заступяць сваіх бацькоў на гаспадарцы. Заняткі на курсе адбываюцца сістэматычна ў кожны аўторак. Вядуць іх спецыялісты з галіны сельскай гаспадаркі: агранnetwork, лекар ветэрынарыі, заатэхнік, ляснік і іншыя. Праграма курсу ахоплівае асноўныя веды з жыцця раслін і хатняй жывёлы. Многа на курсе гаворыцца аб рацыянальных метадах вырошчвання збожжавых і прамысловых культур, аб хімічнай барацьбе з пустазеллем і шкоднікамі, аб найбольш эфектыўных метадах у жывёлагадоўлі. Зараз жа цяжка сказаць яшчэ, як удзельнікі курсу будуць выкарыстоўваць здабытыя веды ў практыцы, аднак ужо можна сказаць, што карысць з сельскагаспадарчага курсу вялікая. Напрыклад, у мінулым годзе ўдзельнікі курсу абавязаліся сеяць толькі сеўнікамі. 20 удзельнікаў зламсыла заявы на цэмент на пабудову сіласных ям. Частка ўжо пабудавала. Уявіўшы сабе, што дагэтуль было 3 сіласныя ямы — скок у гэтай галіне сапраўды вялікі. Летам 10 гаспадароў вяло эксперыменты на вопытных палетках з кармавою капустаю, а ў гэтым годзе другая дзесятка вырашыла вясці доследы з люцэрнаю. 12 гаспадароў у мінулым годзе злажыла заявы на пакупку свінаматак на расплод. Шкада толькі, што сельскагаспадарчыя ўлады не датрымалі дадзенага слова і дагэтуль не даставілі гаспадарам абяцанага расплоднага матэрыялу. А мо ў гэтым годзе споўняць сваю абяцанку?

Даволі цікава праводзіў свае заняткі грамадскі аграном Аляксандр Наумюк. Даклады яго былі заўсёды цікавыя, жывыя, зразумелыя для кожнага селяніна, выклікалі многа спрэчак і пытанняў. Аграном, ведучы свае лекцыі, адклікаўся да вопыту лепшых гаспадароў. І так, напрыклад, аб вырошчванні кармавой капусты расказваў разам з Мікалаем Алексеюком, які ад некалькі гадоў займаецца вырошчваннем гэтай культуры. Варта падкрэсліць, што А. Наумюк вядзе заняткі на роднай мове слухачоў, г. значыць па-беларуску. Вельмі кепска выглядае справа з выкарыстоўваннем наглядных дапаможнікаў. Выкладчыкі іх не маюць, і не карыстаюцца каляровымі табліцамі, схемамі, не дэманструюць сельскагаспадарчых фільмаў і г.д.

Трэба, каб сельскагаспадарчыя ўлады забяспечылі выкладчыкаў адпаведнымі навуковымі дапаможнікамі і часцей наладжвалі на курсах кінасеансы сельскагаспадарчых фільмаў, што, па-першае, зробіць заняткі больш цікавымі, а па-другое, слухачы лепш зразумеюць і хутчэй прысвояць новыя веды.

У нашай вёсцы сельскагаспадарчы курс наведваюць толькі мужчыны, а праграма курсу прадбачвае даклады з такіх галін сельскагаспадаркі, у якіх рашаючы голас маюць жанчыны. Гэта датычыць гадоўлі птушак. Варта, каб на такія даклады разам з мужчынамі прыходзілі жанчыны. Карысць з сельскагаспадарчага курсу напэўна была б большая.

На занятках на курсе трэба абавязкова заахвочваць сялян да самаадукацыі. Таму неабходна, каб выкладчыкі ў час дакладаў адклікаліся да даступных кніжак, інфармавалі слухачоў аб навейшых выдавецтвах, праводзілі спрэчкі на тэму прачытанай кніжкі ці артыкула з сельскагаспадарчых часопісаў. Варта прыкласці намаганні, каб прызвычайваць сялян да слухання радыёвых перадач для гаспадароў, напрыклад, «Навукоўцы — сялянам», можна ўвесці супольнае агляданне сельскагаспадарчай праграмы ў тэлебачанні.

**С. Філіпюк**
Паўлы

### ВАСІЛЬ ГУШЧ

Васіль Гушч, жыхар вёскі Арлянка на Бельшчыне, з'яўляецца перадавым жывёлаводам у сваёй аколіцы. Ён заўсёды гадуе добрых пародзістых расплоднікаў. Адначасова Васіль Гушч, дзякуючы добрай апрацоўцы зямлі, атрымоўвае добрыя ўраджаі цукровых буракоў. З 0,20 га ў мінулым годзе ён атрымаў 130 цэнтнераў. Яго, як перадавога гаспадара сваёй аколіцы, сяляне выбралі на раднага Ваяводскай рады нарадовай.

**В. К.**
Бельскі павет

## У КАТЛАХ

**Катлоўскія гаспадары ўжо некалькі гадоў рацыянальна выкарыстоўвалі машыны на сваіх палях і гумнах з суседніх сельска-гаспадарчых гурткоў (Пасынкі, Сакі, Сабутка), і нават карысталіся паслугамі прыватных ініцыятараў, набіваючы кішэні ім за час сезону абмалоту добрымі некалькімі дзесяткамі тысяч залатовак.**

**Цэлы 1965 год толькі і гаварылася, чаму катлоўскі гурток не варушыцца і не вязе машын. Нават «Ніва» пісала, што вясковыя птушкі на крыллях прынясуць гаспадарчыя машыны. Спадзяванні не здзейсніліся, таму што выбраны прэзас пасля некалькіх месяцаў адказаўся ад даверанай яму работы.**

**Паспяховае развіццё сельскай гаспадаркі патрабуе новых спосабаў гаспадаравання, чаго нельга пачаць без механізацыі. У канцы снежня мінулага года адбыліся другі раз хрысціны гуртка ў Катлах. Быў выбраны новы прэзас і ўвайшлі новыя члены. З поўнай павагай узяў на сябе абавязкі таварыш Пятро Кірылюк — солтыс і сакратар грамадскага камітэта. Кажуць, убралі яго, як наваготнюю ёлку, абавязкамі. Таварыш Кірылюк напэўна павядзе работу ў гуртку. Сярод сялян карыстаецца пашанай як добры гаспадар, солтыс і чалавек, поўны энергіі і настойлівасці. Першы адкрыты сход прыняў пастанову купіць трактарныя камплекты, агрэгаты да абмалоту збожжа, капалкі, сеўнікі, машыны да барацьбы з пустазеллем і другія.**

**Можна верыць, што патрабаванні сялянскай гаспадаркі жыхараў вёскі Катлы, Белай і Армянкі сельскагаспадарчы гурток задаволіць.**

**К. С.**
Катлы

## Кроватворчы кобальт у грыбах

Калектыў спецыялістаў з Медыцынскай акадэміі ў Лодзі праводзіць цікавыя доследы над устанаўленнем складу і колькасці мінеральных субстанцый, якія знаходзяцца ў розных гатунках ядомых грыбоў.

Вынікі доследаў на першым месцы стаўляюць папулярную лісічку (пліску). Аказваецца, што гэты гатунак грыбоў вельмі багаты многімі мінеральнымі рэчывамі, як калій, натрый, жалеза, марганец, медзь, цынк, кобальт.

Для паяснення трэба сказаць, што ў склад людскога арганізма ўваходзіць каля 40 розных хімічных элементаў. Гэта амаль асноўны матэрыял, які стварае косці і іншыя тканкі. Вылічана, што арганізм дарослага чалавека мае каля 3 кг. мінеральных субстанцый, хаця ніводнай з іх сам не стварае. Значыць, адзінай іх крыніцай з'яўляюцца харчы і вада. Іменна таму навука штораз большую ўвагу ўдзяляе доследам над празнымі харчовымі прадуктамі.

Колькасць некаторых хімічных элементаў у арганізме чалавека — нязначна, хоць, напрыклад, кобальт спаўняе вельмі важную ролю ў кроватворчай сістэме. Доследы лодзінскіх вучоных выказалі, што вялікай крыніцай кобальту ў харчах, з'яўляюцца грыбы. Найбольш мае ў сабе кобальту шампіньён (пячарка). Падобную колькасць кобальту маюць у сабе лісічкі і маслякі.

Вынікі доследаў, праведзеных на белых пацуках выказалі, што арганізм выкарыстоўвае 56 — 62 працэнтаў кобальту, які паходзіць з харчоў.

(ака)

## Ураджайны гатунак бульбы

70-гадовы Авакум Дзянісюк з калёніі Кожына (Бельскі павет) 4-ы гады таму назад ездзіў у госці да свайго брата ў СССР, у Пензенскую вобласць. Там яго зацікавіў добры і смачны гатунак бульбы. І ён, так сказаць, прывёз у кішэнях гэтай бульбы і пасадзіў. Яна вельмі добры дала ўраджай. І так ён завёў новы гатунак бульбы, якая вельмі адпорная і на вільгаць і на сушу, добра перахоўваецца і вельмі ўраджайная.

Ад Авакума Дзенісюка чырвоны гатунак бульбы развялі гаспадары з Зубава, Катлоў, Сакоў і Саботкі.

**Васіль Кірылюк**
Зубава

## Справаздачная кампанія

Зараз у Гайнаўскім павеце (падобна, як і ва ўсёй краіне) распачалася ў сельскагаспадарчых гуртках справаздачна-выбарчая кампанія. Усе сельскагаспадарчыя гурткі падсумоўваюць гадавую сваю працу. У існуючых 102 сельгасгуртках гаспадарчую дзейнасць вядзе 78 гуртоў, якія маюць 110 трактарна-машынных камплектаў і 87 малацільных агрэгатаў.

На сходзе ў Карыціскаx у сельскагаспадарчы гурток уступіла 6 новых членаў. На ім было пастаноўлена пабудаваць у вёсцы злеўню малака, купіць больш сельскагаспадарчых машын і правесці комплексную барацьбу з расліннымі шкоднікамі і пустазеллем. Старшынёю сельгасгуртка зноў быў выбраны Андрэй Іванюк.

**Віталіс Назарук**
Гайнаўка

## На сцэне ў Дубічах Царкоўных

У Дубічах Царкоўных моладзь падрыхтавала п'есу «Мікітаў лапаць» і выступіла з ёю перад аднавяскоўцамі. Пасля пастаноўкі выступіла маладзёжная харавая група і дэкламатары.

Канцэрт моладзі спадабаўся гледачам, якія ўзнагароджвалі артыстаў гучнымі апладысментамі. Пасля адбылася забава.

**Мікалай Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

## З чорнай хмары чорная кропля

Коля прыемны хлапец. І шчыры. Ён любіць спорт, ахвотна дапамагае школе ў арганізаванні спартыўных гульняў. Вельмі многа працы ён улажыў пры абсталяванні спартыўнай пляцоўкі. Калі ў лесе вучні з настаўнікамі падбіралі слупкі для школьнай спартыўнай пляцоўкі, дык Коля ні на хвіліну не пакідаў працы. Коля любіць справядлівасць, часта заступаецца за меншых. Коля цікаўны, уніклівы хлапец. Ад яго вока нічога не скрыецца. Ён нават бачыў, як Генюсь суседава парася загнаў у яму, дзе злавіў у каробку і занёс яго ў свае сені. Коля таксама выкрыў з другім вучнем планы Генюся Александрука, які рыхтаваўся абакрасці школьную краму. Генюсь за свае паводзіны атрымаў 4, аднак скончыў школу, і цяпер вучыцца ў Бельску Падляшскім. Ён штодзень даязджае ў школу. Коля Семянюк вучыцца ў VI класе ў Райску. У Райску вучні рыхтаваліся да навагодняй ёлкі, якая адбылася 15 студзеня б.г. Коля як і другія вучні, сабраўся 13 студзеня паехаць у Бельск. За вёскай яго спаткаў Генюсь і моцна парэзаў нажом. Некалькі ранаў нанёс у плечы і ў трох месцах прабіў лёгкія. На гэты выпадак надышоў міліцыянер Станіслаў Чэрняк, які ўдзяліў Колю першай дапамогі. Колю адвязлі ў бальніцу ў Бельск ледзь жывога. Некалькі дзён Коля змагаўся з жыццём. Лекары таксама не пэўныя былі, ці Коля застанецца жыць, але дзякуючы добрай апецы медыцынскага персаналу, а ў прыватнасці лекара Урбановіча, які рабіў аперацыю, Коля жыве.

Коля будзе жыць, праўда, але доўга будзе ён яшчэ ў бальніцы.

Пытанне: у чым ён быў віноўны, што так моцна пацярпеў? Хто Колю верне здароўе? Ён так сцёк кроўю і знямог! Хто павінен панясці кару і якую? Ці тут не вінаваты і часам бацькі Генюся, якія яму дазвалялі ўсё і ўсіх вінілі. Бацькі яго і сёння гоняцца за чужымі дзяцьмі, якія іх сына называюць нажоўнікам. Праўда, міліцыя з Храбалоў вядзе следства, як відаць, добрасумленна. Многа працы тут пакладае камендант і міліцыянт Чэрняк. Жадаем ім поспехаў у працы і чакаем вынікаў.

Усё грамадства Райска абурана такім агідным паступкам 15-гадовага Яўгенія Александрука.

**Сучасны**

### ЁЛКІ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

У клубе на станцыі Нараўка нядаўна адбылася ёлка для дзяцей, бацькі якіх працуюць на чыгунцы. Перад бацькамі выступілі вучні з песнямі, вершамі, музыкай, танцамі і падрыхтаванай пастаноўкай «Курка». Многа прыемных уражанняў вынеслі з гэтай урачыстай вечарыны як школьнікі, так і іх бацькі.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

*

Наватодняя ёлка адбылася нядаўна і ў клубе-кавярні ў Ласінцы. Школьнікі пад кіраўніцтвам настаўнікаў падрыхтавалі багатую мастацкую частку. Пасля мастацкай самадзейнасці адбыліся танцы для школьнікаў.

**Ніна Банькоўская**
Навіны

## Сардэчныя гайны

Дарагое Сэрцайка

Не думала, што буду калі-небудзь звяртацца да цябе і прасіць парады.

Жыву на вёсцы і працую на гаспадарцы. Аднак гэтая праца не дае мне ніякага задавальнення. Мо і праца гэтая была б мне больш зносная, калі б не тое «пекла ў хаце». Я адна ў бацькоў. Часамі думаю, што я зусім дома непатрэбна. Кожную раніцу, калі іду да працы і кожны вечар, калі вяртаюся, маці мая ўсялякімі словамі мяне абзывае. Нават пры маіх сяброўках і сябрах. А таксама ўсяляк гаворыць на мяне суседзям. Я таксама ўжо не такі «анёл», як кажуць. Зрабілася я скрытая і грубая ў адносінах да маці і да суседзяў, да ўсіх. Калі я сказала маці, што пайду з дому, дык маці проста адказала: «То ідзі». І пачала мяне ўсяляк абзываць. Не магу далей вытрымаць. Хацела б працаваць кандуктаршай, але не ведаю, да каго звярнуцца з гэтай справай. Вельмі прашу цябе, Сэрцайка, памажы, падкажы мне, куды звярнуцца за дапамогай.

**Івона** з Гайнаўшчыны

Дарагая **Івона!**

У пісьме сваім ты вінуеш сваю маці, што з ёю не можна жыць. А ты так добра паглядзі і на свае паступкі. Мо з табою цяжка жыць? І мо таму толькі твая маці паступае так дрэнна? Бо не можна ж пахваліць паступкаў тваёй маці, якая цябе абзывае і дрэнна гаворыць аб табе перад суседзямі. Ты, Івона, добра знаеш сваю маці, пастарайся якасьці падыходзіць да сваёй маці інакш, мо так як яна хацела б. Паспрабуй, мо вы знойдзеце тады супольную мову. Бо ж так і павінна быць. На вёсцы цяпер не так ужо і нудна, не заўсёды толькі праца і праца. Не ведаю, колькі ў вас моладзі, але «вясёласць» гэтая на вёсцы залежыць толькі ад вас дзяўчаты і хлопцы. Калі самі не ўмееце, бярыце прыклад з моладзі суседніх вёсак. А тады жыццё будзе цікавейшае і весялейшае, а і праца таксама стане прыемнай.

У справе кандуктаршы мы званілі ў ПКС-ы, аднак нам адказалі, што няма вольных цяпер месц, а па-другое, прымаюць толькі мясцовых г. зн. з Беластока.

**СЭРЦАЙКА**

## КІНО

Праграма
на 14—20. II. 1966 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Torreador" (meksykański), 15 — 16, „Okres próbny" (radz.), 17—18, „Salto" (polski), 19—20.

**Кляшчэлі**
„Przeżyjmy to jeszcze raz" (polski), 15 — 16, „Królewna i rybak" (czeski), 17 — 18, „Drzwi stoją otworem" (jugosł.), 19—20.

**Дубіны**
„Przemytnik z Piemontu" (franc.), „Ostatni świadek" (NRF), 19 — 20.

**Нарва**
„Car Kałojan" (bułg.), „Ruda Julka" (franc.), 16 — 20.

**Нараўка**
„Irena do domu" (polski), „Mansarda" (polski), 16—20.

**Чыжы**
„Drugi brzeg" (polski), „Czapajew" (radz.), 16 — 20.

**Дубічы Царкоўныя**
„Piąty wydział" (czeski), „Romeo, Julia i ciemność" (czeski), 16 — 20.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Człowiek, który wątpi" (radziecki), „Szczęściarz Antoni" (polski), 16 — 20.

**Орля**
„Nieletni świadek" (angl.), „Pięcu" (polski), 16 — 20.

**Райск**
„Człowiek zza biurka" (włoski), „Judex albo zbrodnia ukarana" (franc.), 16 — 20.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Sucha" (brazylijski), „Człowiek, który zabił Liberty Walencea" (USA), 16—20.

**Міхалова**
„Wraki" (polski), 15 — 16, „Przebudzenie" (czeski), 17 — 18, „Inspektor i noc" (bułg.), 19 — 20.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Hary i kamerdyner" (francuski), 15—16, „Człowiek, który wątpi" (radz.), 17 — 18, „Pingwin" (polski), 19 — 20.

**Мілейчыцы**
„Wiatr ucichł przed świtem" (jugosł.), 15—16, „Wojenna przyjaźń" (węgierski), 17 — 18, „Ojciec żołnierza" (radz.), 19—20.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Sztubackie kłopoty" (czeski), 15 — 16, „Kosmos wzywa" (radziecki), 17 — 18, „Szalone wakacje" (jugosł.), 19 — 20.

**Шудзялава**
„Jadą goście, jadą" (polski), „Biała karawana" (radz.), 16—20.

**Сідра**
„Przygody Tolka Borówki" (radz.), 15 — 16, „Samson" (polski), 17—18, „Droga przez cmentarz" (radz.), 19 — 20.

**Сухаволя**
„Ameryka" (USA), „Człowiek z przeszłością" (radz.), 19 — 20.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Ach te dzieci" (radz.), 16—20.

**Ліпск**
„Rodzina Milcarków" (polski), „Czarci żleb" (polski), 19—20.

## ТЭАТРЫ

ТЭАТР «СВЕРШЧ»
(выязная група)

**Драгічын**
„Uparty kotek" — 14. II.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie —14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok 1 Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23, Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $ w Europie, 5 $ — w USA. Nakład 5458 Błk 442 D-3

